

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Рэхам чарговых чарнобыльскіх угодкаў данеслася яшчэ адна трывожная навіна. Сусьветная арганізацыя аховы здароўя прагназуе рост колькасьці захворваньняў на рак шчытападобнай залозы ў раёнах, што найбольш пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Нескладаныя разьлікі па нашай вобласьці сьведчаць, што прыкладна кожны 40-ы чалавек, які нарадзіўся ў часавым адрэзку, што ахоплівае першыя 4 пасьляаварыйныя гады, – хутчэй за ўсё не пазьбегне гэтай цяжкай хваробы.

Зрэдку, што магчыма чытачы заўважылі, я падаю так званую крымінальную кроніку: там забілі, там скралі, там абрабавалі. Без аналізу прычынаў злачынстваў і мераў, якія прымаюцца, каб папярэдзіць іх – гэта, на маю думку, мала спрыяе паляпшэньню сытуацыі. Аднак сёньня – выключэньне. Бо і злачынства пра якое гаворка – таксама выключэньне. На гомельскай шашы, непадалёк ад вёскі Гута Кіраўскага раёну, два чалавекі, узброеныя "абрэзамі", зрабілі напад на маршрутны міжнародны аўтобус "Таллін-Адэса", у якім разам з кіроўцамі было 14 чалавек. Рабаўнікі аднялі ў пасажыраў усе грошы і сышлі ў цемру (напад адбываўся ўначы, калі аўтобус спыніўся пры дарозе)... Пра разбой на дарогах даўненька не было чуваць у нашых краях.

У будынку былога дзіцячага садку ў Магілёве адчыніўся прытулак для сацыяльных сіротаў. Так называюць дзяцей, якіх кінулі на волю лёсу бацькі й хто застаўся без бацькоў у выніку судовага рашэньня аб пазбаўленьні маці, бацькі ці абодвух права на выхаваньне дзяцей. Прытулак разьлічаны на 60 месцаў. Пакуль ён заняты на траціну. Па ўсяму адчувальна аднак, што астатнія месцы ня будуць пуставаць доўга. На жаль.

Дзьве па сутнасьці аднолькавыя крымінальныя справы прыцягнулі да сябе ўвагу. Адна завершылася слуханьнем і прысудам. Іншая толькі распачалася ў судзе. Абласны суд прызначыў 4 гады зьняволеньня экс-старшыні Мсьціслаўскага райвыканкаму Сяргею Дземідзенку і амаль столькі ж – ягонаму намесьніку. Калі хто памятае, задоўга да суда прысуд на адрас Дзямідзенкі прагучаў з вуснаў Лукашэнкі. Быламу старшыні інкрымінавалі незаконнае расходваньне сродкаў на прыёмах розных гасьцей і дэлегацый. Другая справа, што толькі пачалася ў судзе – гэта справа былога старшыні Быхаўскага райвыканкаму Генадзя Гунёва. Што будзе ўрэшце інкрымінавана яму – пабачым. Яднае гэтыя суды тое ж самае: незадавальненьне на адрас экс-старшыняў, публічна выказанае з вуснаў кіраўніка краіны.

Магілёўская прамысловасьць дачакалася яшчэ аднаго мясцовага падатку. Цяпер кожнае прадпрыемства мусіць пералічваць у бюджэт на патрэбы сацыяльна-інвэстыцыйнага фонду 1% ад прыбытку за рэалізацыю сваёй прадукцыі. Адзін адсотак – гэта нямала, бо ён, гэты адсотак, не адзіны. Таму прамысловы "генэралітэт" вобласьці рыхтуе зварот да Савету міністраў і заканадаўцаў. Можна прадбачыць рэакцыю: ніхто ня стане слухаць дырэктараў.

Старшыня аблвыканкаму Міхаіл Дражын час ад часу робіць нечаканыя заявы. Нядаўна ён прызнаў, што калгасная вёска прыйшла практычна да свайго скону. Цяпер жа ён зрабіў адкрыцьцё, што эканамічнае становішча вобласьці ўвогуле нестабільнае. Толькі за першы квартал года эканоміка згубіла больш за 2 млрд. руб. Як і пры вясковых выказваньнях, старшыня выканкаму спадзяецца, што сытуацыю магчыма выправіць дысцыплінай кадраў і ўнутранымі рэзэрвамі.

Падаткавікі знайшлі новых ахвяраў. Імі зараз сталі тыя, хто займаецца прыватным перавозным бізнэсам. Тых, у каго ёсьць таксоўная ліцэнзія, гэта ня тычыцца. А вось калі нехта без такой ліцэнзіі падвёз вас на машыне і ўзяў за тое грошы – ён можа моцна пацярпець. Апошнім часам больш за 30 чалавек такім чынам папаліся. Падаткавікі самі спынялі аўто і замаўлялі адрасы паездак. Калі іх дастаўлялі на месца – пачыналіся "разборкі". Больш чым у 20 чалавек машыны былі арыштаваныя (імі нельга карыстацца, пакуль ня будзе заплочаны штраф). А грашовае пакараньне немалое: ад 20 да 50 мінімалак.

Нарэшце апошняе. Да нас, у вобласьць, прызначаны новы кантралёр над усімі. Лукашэнка накіраваў па вобласьцях новых інспэктараў у раньзе "памочнікаў прэзыдэнта", замацаваўшы за імі кантрольныя й іншыя функцыі як у эканоміцы, так і ў палітычных пытаньнях. Нешта не прыпамінаюцца мне з Канстытуцыі такія пасады. Хаця хто з нас, а горш таго – нашых кіраўнікоў, зазірае ў гэтую Канстытуцыю. Паўнамоцтвы і адказнасьць перад Лукашэнкам у гэтых людзей будзе вялікая. Значыць, будуць старацца. А перад тым кожнаму трэба будзе забясьпечыць прыстойныя ўмовы, каб не адцягвалі ўвагі ад галоўнага. Пералічу толькі самае неабходнае: кватэра, службовае аўто, кабінэт, памочнікі, сотавы і просты тэлефоны, заробак. Усё гэта мусіць быць салідным, бо памочнікі яны, гэтыя людзі, самі разумееце, не абы каго. Адкуль у такой беднай краіны як нашая сродкі на гэта?.. Таго ў нас не пытаюцца.

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

# Мэмарандум "Аб мэтах Усебеларускага Зьезда"

Усьведамляючы адказнасьць за будучыню Бацькаўшчыны, мы заяўляем пра неабходнасьць абараніць дзяржаўнасьць Беларусі. Дзеля гэтага склікаецца Ўсебеларускі Зьезд 2000 года. Гэты гістарычны сход павінен мець максымальную прадстаўнічасьць і нарэшце паставіць кропку ў пытаньні, ці патрэбная грамадзянам нашай краіны незалежнасьць.

Мэта Зьезда – прыняцьце Акта Незалежнасьці – дакумэнта, цэнтральнай ідэяй якога зьяўляецца абвешчаньне дзяржаўнасьці сьвяшчэннай каштоўнасьцю беларускага народу. Усе крокі, скіраваныя на абмежаваньне ці скасаваньне суверэнітэту, павінны лічыцца незаконнымі і злачыннымі. Незалежнасьць Беларусі ёсьць набыткам ня толькі цяперашняга, але і мінулых, і наступных пакаленьняў, і таму ніхто ня мае права распараджацца ёю паводле ўласных інтарэсаў.

Акт Незалежнасьці падмацуе падмурак беларускай дзяржаўнасьці, закладзены Ўстаўнымі Граматамі Рады БНР, Дэклярацыяй аб сувэрэнітэце і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Спадзяемся, што ён таксама стане дадатковым чыньнікам салідарызацыі ўсіх дэмакратычных грамадзкіх сіл дзеля сумеснай працы на карысьць Бацькаўшчыны і паспрыяе аднаўленьню законнасьці ў краіне.

Першая сэсія Ўсебеларускага Зьезду склікаецца адмыслова дзеля прыняцьця Акта Незалежнасьці. На гэтым сходзе ня будзе ні "абраньня нацыянальнага лідэра", ні "стварэньня структураў, паралельных дзяржаўным". Усебеларускі Зьезд – грамадзкая ініцыятыва, скіраваная выключна на адстойваньне сувэрэнітэту краіны. Калі мы гарантуем захаваньне дзяржавы, дык яшчэ будзем мець час і нагоды вырашыць цывілізаваным шляхам усе надзённыя палітычныя праблемы.

Мы хочам знайсьці паразуменьне з усімі, хто лічыць, што Беларусь павінна быць асобнай дэмакратычнай заможнай краінай. Толькі разам мы зможам палепшыць нашае сёньня і дамагчыся заўтра для нашчадкаў. Дзеля гэтага заклікаем суайчыньнікаў аб'яднацца вакол ідэі Ўсебеларускага Зьезду.

Жыве Беларусь!

*Генадзь БУРАЎКІН, Радзім ГАРЭЦКІ, Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, Рыгор БАРАДУЛІН – сустаршыні аргкамітэту Ўсебеларускага Зьезду 2000 года*

*Кантактны тэлефон Сакратарыяту: (017) 223-65-29*

## РОЗГАЛАС ДНЯ ВОЛІ І ГАДАВІНЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ БЯДЫ

### Абмежаваліся судом

Бабруйск. Днямі Ленінскі раённы суд пад старшынствам Галіны Савасьцьянчык вынес папярэджаньне дырэктару Бабруйскага рэгіянальнага Інфармацыйна-прававога цэнтру Вячаславу Сьвізунову за арганізацыю сьвята ў Дзень Волі на гарадзкім пляцу Перамогі.

Спадар Сьвізуноў сваёй віны не прызнаў, і яго зусім не цікавіла мера пакараньня. Яго галоўнай задачай на працэсе было патлумачыць сутнасьць канфлікту паміж мясцовай вэртыкальлю і апазыцыяй. "Нам калі і даюць дазвол на правядзеньне нашых мерапрыемстваў, дык на ўскрайку горада, на стадыёне "Фандок". А мы патрабуем для правядзеньня нашых акцыяў пляц Перамогі. Гэтае месца абсалютна не пярэчыць арт.10 Закону "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні" ад 30 сьнежня 1997 года. Забарона нашых мерапрыемстваў на гэтым месцы – гэта выбрыкі мясцовых "вэртыкальных", якім пляваць на Законы і сваю ж Канстытуцыю. Акцыі грамадзянскага непадпарадкаваньня, накшталт праведзеных "Ланцуга свабоды", "Акцыі любові" і "Дня Волі" будуць працягвацца да той пары, пакуль мясцовыя ўладары не дазволяць нам праводзіць кожнае наша мерапрыемства на пляцы Перамогі!" –заявіў напрыканцы працэсу Вячаслаў Сьвізуноў.

Судовыя працэсы над іншымі ўдзельнікамі сьвяткаваньня Дня Волі ў Бабруйску працягваюцца.

### Зьвярнуліся да пракуратуры

Магілёў. Мінулым аўторкам у Цэнтральны суд да судзьдзі Ірыны Сарокі быў выкліканы старшыня абласной арганізацыі БНФ Анатоль Фёдараў, на якога за правядзеньне ў горадзе 26 сакавіка акцыі смутку і жалобы (пра яе мы паведамлялі ў папярэднім нумары) быў складзены міліцэйскі "пратакол" як на парушальніка грамадзкага парадку і закону аб масавых мерапрыемствах. Аднак, як сталася вядомым ледзь не на парозе судзейскага кабінэта, выклік спатрэбіўся для таго, каб папярэдзіць А.Фёдарава аб тым, што ягоная справа перадаецца ў пракуратуру, паколькі адміністратыўны "ліміт" ён вычарпаў і цяпер на яго можа быць заведзеная крымінальная справа.

Сам Анатоль Фёдараў паставіўся да гэтага паведамленьня спакойна. Ён сказаў нашаму карэспандэнту, што разумее, хто насамрэч прыняў такое рашэньне. Гэтыя людзі знаходзяцца вышэй за судзьдзю і іхны намер відавочны: запалохаць апазыцыю, якая ўдала распачала ў сталіцы і на месцах палітычную Вясну. Аўтарытэт апазыцыі расьце, бо падае жыцьцёвы ўзровень. Людзі больш не задавальняюцца абяцанкамі і казкамі пра даброты "інтэграцыі". На акцыі смутку ў Магілёве да пастаянных удзельнікаў антырэжымных мерапрыемстваў далучылася шмат людзей, звычайна далёкіх ад "палітыкі". Вось што палохае ўладу, вось што праз пакараньні актывістаў яна мяркуе спыніць, аднак гэтага, на перакананьне А.Фёдарава, не адбудзецца.

*Паводле нашых карэспандэнтаў*

## ДЗЕРАВЕНСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

### Вясна прыйшла...

Ладзяць гнёзды і сьпяваюць птушкі. Паўшлі ў рост трава і лісьце. Шпарчэй заварушыліся людзі.

Ня ўсе аднак у маёй вёсцы (з часу майго папярэдняга наведваньня) дачакаліся сёлетняга цяпла, перасяліліся на могілкі. Ды ня толькі старыя. Усё часьцей даведваюся і бачу сам, як сыходзяць з жыцьця маладыя. Хваробы, гарэлка, радыяцыя. Могілкі пашыраюцца, нядаўна перакрочылі на суседняе поле.

Амаль бяз стратаў, на дзіва, пераўжыў зіму калгасны статак. Калгас, праўду сказаць, багаты па беларускіх цяперашніх мерках. Зь лютага мог дазволіць сабе вазіць салому з самой Рэчыцы – вось і выратаваў жывёлку. А ў прыватнікаў кароў паменшыла. Мала хто мае сілы трымаць скацінку...

Аднак – вясна. Пацягнуліся ў вёску гараджане. І дачнікі, і дзеці-унукі вяскоўцаў. Ім дапамога, і бацькам падтрымка. Гараджане ладзяць парнікі, рамантуюць парканы, растрасаюць на агародзе гной, раскопваюць градкі.



Самі вяскоўцы ўсё менш турбуюцца пра калгаснае. Многіх павыганялі за п'янку, многія самі кінулі працаваць на агульную гаспадарку: заробкі тут мізэрныя, тэхніка дабітая, паліва ў абрэз, запчастак не знайсьці. Нават скрасьці чаго путнага няма. Шастаюць па прыватных дварах і пунях. Хіба толькі даяркі з фэрмаў маюць магчымасьць прыхапіць трохі вітаміннай мукі ці слоік малака.

Людзі за зіму расьцягнулі па барвяну і дошчачцы апошнюю калгасную канюшню, яшчэ даваенную. Дрэва сухое, крэпкае. А гэта найлепшыя дровы, а тое й на лазьню каму спатрэбіцца. Галоўнае, каб марна не згубілася, як многае іншае на вёсцы. А коні цяпер вольныя, ходзяць па гародах, скубуць новую траўку: вясна!

Гудуць шмялі, крычаць вароны. Корпаюцца ў зямлі людзі. Вясна прыйшла...

*Максім ШКВОРАНЬ зь вёскі Сумарокава Магілёўскага раёну*

# Праграма тэлебачаньня з 8 па 14 траўня

## •• Понедельник, 8 мая ••

Праграму тэлеканалаў
мы друкуем на замову чытачоў.
Гаспадары праграмы
падаюць нам яе на расейскай.
Рэдакцыя фізычна (па часе)
не пасьпявае яе перакласьці.
Просім разглядаць гэтыя старонкі
як тэхнічна-службовы матэрыял,
які ня мае дачыненьня да зьместу
й характару нашай газэты.

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Резонанс.
8.45 Потребительская корзина.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Худ.фильм «Мама, я живой!».
10.18 Видеозарисовка.
10.20 Телеочерк.
10.35 «Сегодня с вами...»
11.00 Телевизионный Дом кино.
11.40 «А музыка звучит...»
12.10 Теленавигатор.
12.30 «Радуница».
12.45 «Свет таланта».
13.25 «Мы победили!»
13.40 Фестиваль солдатской песни.
15.10 «Жизнь и несколько лет». Телеочерк.
15.30 Док. фильм.
15.55 Торжественное заседание и концерт, посвященные Дню Победы.
18.00 АРТ-клуб.
18.45 Док. фильм.
19.40 Музыкальная программа.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Видеозарисовка.
21.40 Худ. фильм «В шесть часов вечера после войны».
23.10 Третий тайм.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00 Новости.
7.10 Слово пастыря.
7.25 «Все путешествия команды Кусто».
8.15 Программа «100%».
8.40 «Непутевые заметки».
9.10 Смак.
9.30 Пока все дома.
10.10 Семейная комедия «Альф».
10.40 Утренняя почта.
11.10 «Летят журавли». Худ. фильм.
13.00 Фильм «Оккультные тайны Третьего рейха».
14.10 Время футбола.
14.40 «Господа офицеры». Концерт Олега Газманова.
16.55 Как это было. Знамя Победы. 1945 год.
17.35 Смехопанорама.
18.10 Худ. фильм «Белорусский вокзал».
20.00 Время.
20.45 Худ. фильм «Ожидание полковника Шалыгина».
22.25 Хоккей. Матч команд финальной группы.

### РОССИЯ

7.00 У войны не женское лицо. Док. фильмы.
7.45 Почта РТР.
8.15 Доброе утро, страна.
8.50 Русское лото.
9.35 «Сто к одному».
10.25 Сам себе режиссер.
10.55 «Друзья». Комедийный телесериал.
11.20 Эх, дороги...
11.35 «Золотой ключ».
12.00, 19.00 Вести.
12.20 Федерация.
13.15 Героическая драма «Дважды рожденный».
14.45 «Том и Джерри». Мультсериал.
15.05 Планета Земля.
16.05 У войны не женское лицо. Док. фильм.
16.15 Памяти поэта. «Булату Окуджаве...»
16.55 Моя семья. «Он ищет ее».
17.55 «Два рояля».
19.40 «Павшие обелиски». Док. фильм. Часть 1-я.
20.10 «Аншлаг» и К°.
21.15 Мелодрама «Любовь земная».
23.00 Хоккей. Матч команд финальной группы.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
7.15 Худ. фильм «Офицеры».
9.15 Худ. фильм «Выйти замуж за капитана».
11.30 Худ. фильм «А зори здесь тихие».
14.40 «Профессия — репортер».
15.20 Футбольный клуб.
16.10 Худ. фильм «Дело было в Пенькове».
18.35 «Победа. Одна на всех». Фильм из цикла «Новейшая история».
19.40 «О, счастливчик!»
21.45 Худ. фильм «Вор».
23.30 «Антропология».
0.15 Лига чемпионов.

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 Мультфильм.
12.10 Мой цирк.
12.35 Графоман.
13.00 Рассказы старого сплетника.
13.45 К.Симонов. «Так и будет». Спектакль Малого театра.

### МОГИЛЕВ-1

15.00 Торжественный вечер, посвященный 55-летию Победы.
16.40 «На графских развалинах». Фильм — детям.
17.45 Мультфильм.
17.55,19.45 «Праздник в Вашем доме».
19.20 Телемагазин.
19.30 «Встреча на Солдатской поляне».
20.45 «Сочинение ко Дню Победы». Худ. фильм.
22.40 Астро-дайджест.
22.55 «В небе «ночные ведьмы»». Худ. фильм.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.00-18.00 ТНТ.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Док.фильм. «Могилев. Дни и ночи мужества».
19.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
20.30 «Поздравления».
21.20 Высокая мода.
21.30 Худ.фильм «Гу-га».
23.40 Спорт. программа.

## •• Вторник, 9 мая ••

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 День Победы. Память.
8.15 Фильм-концерт.
8.40 Видеозарисовка.
8.45 День Победы. Память.
9.00, 13.00, 15.00, 17.00 Новости.
9.15 Арсенал.
9.40 Парад Победы.
9.55 Военный парад и торжественное шествие ветеранов Великой Отечественной войны.
11.30 «Девочка ищет отца». Худ. фильм.
13.25 «Нам песня помогала на войне...»
14.25 «Один из многих». Док. фильм.
14.45 День Победы. Память.
15.20 Видеозарисовка.
15.25 «Полонез Огинского». Худ. фильм.
16.50 «55 лет Победы. Память сквозь годы». Видеозарисовка.
17.30 День Победы. Память.
17.50 «Светлой памяти павших в борьбе против фашизма». Минута молчания.
18.05 Худ. фильм «Баллада о солдате».
19.30 Стихи белорусских поэтов о войне.
19.40 День Победы. Память.
20.00 Панорама. Репортаж о военном параде и торжественном шествии ветеранов, посвященных 55-летию Победы.
21.55 Международный телефестиваль патриотической песни «Память».

### ОРТ

6.00, 14.00, 17.00 Новости.
6.10 Телеканал «День Победы».
6.25 «Бессмертный гарнизон». Телесериал.
8.00 «День Победы».
9.00 Москва. Красная площадь. Военный парад.
9.55 Играй, гармонь любимая!»
10.25 1941: «Разгром».
11.10 «День Победы».
11.45 1942: «Сталинград». Телесериал.
12.35 «День Победы».
13.10 1943: «Курская битва». Телесериал.
14.15 «Поезд милосердия». Док. фильм.
14.50 «День Победы».
15.35 1944: «Минское кольцо». Телесериал.
16.20 Ищу тебя.
17.15 «День Победы».
17.50 «Светлой памяти павших в борьбе против фашизма». Минута молчания.
18.05 1945: «Штурм Берлина. Победа». Телесериал.
19.35 А. Маресьев в программе «ЖЗЛ».
20.00 Время.
20.40 Фильм Л.Быкова «В бой идут одни старики».
22.10 Хоккей. Матч команд финальной группы.

### РОССИЯ

7.00 Мультфильм.
7.10 Док. фильм.
7.35 «Голоса войны». Музыкальный фильм.
9.00 Москва. Красная площадь. Военный парад.
9.55 «Виктория». Фестиваль солдатской песни.
12.00, 19.00 Вести.
12.20 Романтическая драма «Чистое небо».
14.10 Новая «Старая квартира».
15.15 Ко Дню Победы. Киноконцерт.
16.00, 18.05 Кинороман «Судьба».
17.50 «Светлой памяти павших в борьбе против фашизма». Минута молчания.
19.40 «Павшие обелиски». Док. фильм. Часть 2-я.
20.10 А. Розенбаум. Праздничный концерт.
22.10 Киноэпопея «Падение Берлина».

### НТВ

7.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
7.15 Олег Даль в фильме «Женя, Женечка и «катюша».
8.50 Военный парад, посвященный 55-летию Победы.
9.40 «Песни о Москве».
10.20 «Один день».
11.30 Приключенческий фильма «Картуш».
13.25 Худ. фильм «На войне как на войне».
15.25 «Я и моя собака».
16.10 «В нашу гавань заходили корабли».
17.50 «Светлой памяти павших в борьбе против фашизма». Минута молчания.
18.40 Худ. фильм «Сочинение ко Дню Победы».
20.35 «Профессия — репортер».
21.35 Футбол. Лига чемпионов. Полуфинал. «Бавария» (Германия) — «Реал» (Испания).
23.35 Худ. фильм «Домой дороги нет» (США).

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.35 «Мгновения Победы».
11.40 Ради жизни на земле.
12.15 Пишет домой война...
13.00 Г.Бакланов. «Был месяц май».
13.15 Киноконцерт.
13.40 «Мгновения Победы».
13.45 Мультфильм.

### МОГИЛЕВ-1

15.00 «Родительский день — день просветления и памяти».
15.20 Мультфильмы.
16.10 «Битва за Берлин». Док. сериал. 1 часть.
17.00 Телеочерк.
17.35 «С праздником Вас, Победители!»
18.20 «Битва за Берлин». Док. сериал. 2 часть.
19.15 Телемагазин.
19.30 День области.
19.50 «Праздник в Вашем доме».
20.45 «Командир счастливой «Щуки». Х/ф.
22.25 Астро-дайджест.
22.35 «Торпедоносцы». Худ. фильм.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.00-17.00 ТНТ.
17.00 «Поздравления».
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 «Поздравления».
19.30 Док.фильм «Парад Победы».
20.20 Мультфильмы.
20.30 Муз. программа.
21.10 Высокая мода.
21.20 Худ.фильм «В бой идут одни старики».
22.45 Спорт. программа.

## •• Среда, 10 мая ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.05 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.10 ТВ — школе.
9.40 «На волне взаимопонимания».
10.25 «Зорная ростань».
11.20 Х/ф. «Свет в окне».
12.35 Компьютерный полигон.
14.25 «Карамболь».
15.15 Видеокурс английского языка.
15.35 Мультфильм.
15.45 «5 х 5».
16.15 ТВ — школе.
16.40 Телеочерк.
17.10 «Макаенка,9».
17.40 Музыкальный салон.
18.10 «Сегодня с вами...»
18.35 Лотерея «Толока».
18.45 МСН.
19.15 Москва — Минск.
19.50 «Майор Вихрь». Худ. фильм. 1-я серия.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 КВН.
23.30 Криминальная хроника.
23.35 Королевская охота.
0.15 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45 Новости.
8.15 «Нежный яд».
9.15 Поле чудес.
10.15 Смак.
10.30 «Новые приключения Синдбада».
13.20 «Вместе».
14.15 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Классная компания.
14.55 Звездный час.
15.25...До шестнадцати и старше.
16.00 «Нежный яд».
17.30 Маски-шоу.
18.00 Человек и закон.
18.45 Боевик «Крутые». 1-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Комедия. «Плезантвиль».
23.10 «Цивилизация».

### РОССИЯ

5.00, 6.00, 7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
5.20 — 8.30 Доброе утро, Россия.
5.35 Семейные новости.
7.20 «Дежурная часть».
8.40 «Арена — спорт».
9.20 «Цыганка».
10.10 «Санта-Барбара».
11.00 Телеспецназ.
11.25 Москва — Минск.
15.40 Мультфильмы.
16.30 «Башня».
16.55 «Круглая дата».
17.25 «Кинескоп».
18.25 «Вино-шоу-кур».
19.40 «Дикий ангел».
20.35 Приключенческий фильм «Мужская компания».
22.30 Мужчина и женщина.
23.20 Драма «Французская женщина».
1.05 «Дежурная часть».

### НТВ

5.00 «Сегодня утром».
7.55 «Я и моя собака».
8.45 Фитиль.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 «Победа. Одна на всех».
10.25 «Свидетель века».
10.40 «Среда».
11.30 Телеигра.
12.40 Мультфильм.
13.35 Муз. комедии «Вольный ветер». 1-я серия.
15.35 Сериал «Лоис и Кларк».
16.30 Впрок.
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 Сериал «Бандитский Петербург».
19.55 Суд идет.
21.35 Футбол. Лига чемпионов. Полуфинал. «Барселона» — «Валенсия».

### КУЛЬТУРА

11.30, 13.30 Новости культуры.
11.40 «Два капитана». Х/ ф.
13.15 «Мария». Док. фильм.
13.45 Мультфильмы.
14.10 «15-й подъезд».
14.35 «Нико».
15.00 Новости.
15.10 Кино — детям. «Чародей».
15.35 «Беседы о русской культуре».

### МОГИЛЕВ-1

6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 «Астро-дайджест».
8.05 «Искушение».
8.55 «Удивительные животные». Док. сериал.
9.20 «Командир счастливой «Щуки»». Худ.фильм.
16.30 «Диагноз: убийство». Телесериал.
17.20 Мультфильм.
17.30 Тележурнал.
18.00, 20.00 «Праздник в Вашем доме».
19.20 Телемагазин.
19.30 День области.
20.45 «Только ты». Телесериал.
21.30 Астро-дайджест.
21.40 Спорт планеты.

### МОГИЛЕВ-1 НА БТ

13.15 «Встреча на Солдатской поляне».
13.25 «Родительский день — день просветления и памяти».
13.40 Телеочерк.
14.10 Мультфильм.

### 2-Й КАНАЛ

7.00 «Энергетический завтрак».
8.10-12.00 ТВ-6.
15.00 ТВ на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 Городские новости.
18.45 Док. фильм.
19.10 Мультфильм.
19.30, 20.30 «Поздравления».
20.15 «В гостях у бабки Агапки».
21.20 Высокая мода.
21.30 Городские новости.
21.45 Детектив «Шедевры и убийства».
23.10 Спорт. программа.

## •• Четверг, 11 мая ••

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.35 Новости.
8.10 «Сегодня с вами...»
8.35 Потребительская корзина.
9.10 Королевская охота.
9.40 Телевизионный Дом кино.
10.10 Телеочерк.
10.40 Туробъектив.
11.10 Видеозарисовка.
11.20 «Насыпь». Худ. фильм.
12.25 Премьера песни.
12.35 Наш край.
13.15 «Все мы родом из детства».
14.10 Авто-парк.
14.20 Телеспектакль «Следственный эксперимент».
15.15 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.40 Мультфильм.
15.55 Видеокурс английского языка.
16.20 ТВ — школе.
17.15 Марсово поле.
17.35 Усадьба.
18.00 «Черная дама». Док. фильм о Несвижском замке.
18.15 Политические диалоги.
18.40 МСН.
19.17 «Майор Вихрь». Худ. фильм. 2-я серия.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 «Лестница в небеса». Телесериал. 1-я и 2-я серии.
22.55 Крок.
23.25 Криминальная хроника.
23.40 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.50 Новости.
8.15 «Нежный яд».
9.15 Маски-шоу.
9.45 Человек и закон.
10.25 Вкусные истории.
10.30 «Новые приключения Синдбада».
13.25 «Вместе».
14.15 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Семь бед — один ответ.
14.55 Программа «100%».
15.25 Хоккей. Чемпионат мира. 1/4 финала. В перерыве:
16.10 «Ералаш».
18.00 Процесс.
18.45 Боевик «Крутые». 2-я серия.
19.45 Спокойной ночи, малыши!

